### З чым вернецца з Сочы ад Пуціна Аляксандр Лукашэнка?

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**№ 11 (4469)**

7 лютага 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ

Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

## Дэпутаты – за могілкавы спакой?

Пачну з шэдэўральнай заявы: "Я не люблю мітынгі і лічу, што чым менш мітынгаў, тым лепш краіна развіваецца". Так днямі парыраваў новаспечаны дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Алег Гайдукевіч** пытанне "Народнай Волі". І дадаў: таму, маўляў, у яго няма ахвоты "працаваць над тым, як ствараць умовы, каб людзі блукалі па вуліцах з палітычнымі лозунгамі".

Так, рэдакцыя пацікавілася ў шэрагу парламентарыяў, ці гатовы яны ініцыяваць перагляд закона аб масавых мерапрыемствах. Адказы змешчаны ў нумары за 4 лютага. А нагодай для апытання стаў шалёны канвеер судоў над арганізатарамі і ўдзельнікамі снежаньскіх вулічных акцый супраць пагрозы інкарпарацыі Беларусі пад маркай "паглыбленай інтэграцыі". Агульная сума штрафаў на канец студзеня перавысіла 128 тысяч рублёў, многім прысудзілі "суткі".

Сапраўдны тэатр абсурду: дзяржава карае найболей свядомых грамадзян, патрыётаў, гатовых стаць на абарону яе незалежнасці без адмашкі зверху, а на заклік сэрца. І калі матывацыя палягае ў тым, што яны парушылі закон, выйшлі без дазволу, то мо варта задумацца, **ці не крывы той закон**?

Але па адказах некаторых дэпутатаў мы бачым, што яны спяшаюцца адмахнуцца ад праблемы ды навесіць маніфестантам ярлыкі, адбіваючы кавалак хлеба ва ўладных прапагандыстаў. Ці мо хтокольвек з парламентарыяў так і разумее сваё амплуа?

Прыкладам, **Генадзь Давыдзька** кваліфікаваў снежаньскія пратэсты як правакацыю. А на думку **Андрэя Савіных**, "канкрэтна гэтыя маніфестацыі былі чым заўгодна, толькі не спробай абараніць Бацькаўшчыну". Ён жа зазначыў, што аналагічныя заканадаўчыя нормы існуюць практычна ва ўсіх краінах свету.

Так, ды не так, пан Савіных! Бо па сутнасці і адпаведныя законы, і практыка іх прымянення ў дэмакратычных краінах значна больш ліберальныя. Там – мінімум фармальнасцяў і абмежаванняў. Улады найперш шануюць канстытуцыйнае права грамадзян. І звычайна паводле паведамляльнага прынцыпу свабодна выходзяць на вуліцы і правыя, і левыя, і фемiністкі, і прадстаўнікі ЛГБТ-супольнасці, і ўсякія чэрці лысыя. Яны рэалізуюць сваё права незалежна ад таго, наколькі іх погляды падабаюцца тамтэйшым начальнікам. А місія паліцыі – гарантаваць гэтым людзям бяспеку.

І ўсё. І не ваша справа вызначаць, наколькі яны шчырыя ці няшчырыя патрыёты. У вас што, адпаведны прыборчык маецца, пан Савіных, кшталту дазіметра? Ці мо вашаму густу адпавядаюць толькі аграгламурныя карнавалы БРСМ? Дык пакіньце свой густ пры сабе.

І не трэба ківаць на кадры разгонаў дэманстрацый за мяжой з ужываннем слезацечнага газу. Там бывае, што вулічныя выступы ператвараюцца ў баі супраць паліцыі. Дысцыплінаваныя ж беларусы нават пратэстуюць на зялёнае святло, стараюцца травінкі не прытаптаць. У гэтым плане арганізацыя і дысцыпліна падчас снежаньскіх антыінтэграцыйных акцый была ўзорнай. Я ўжо не кажу пра маральны бок справы: людзі выйшлі за незалежнасць. Калі хочаце, ўратавалі гонар нацыі.

Канкрэтны дэпутат можа не любіць мітынгі ці, напрыклад, квашаную капусту. Але гэта не падстава абмяжоўваць іншых грамадзян у праве на мітынгі ці паяданне капусты. Зрэшты, халера з ёй, той капустай, мы – пра масавыя мерапрыемствы. Дык вось, па міжнародных мерках адпаведны беларускі закон – драконаўскі. Фактычна ён падсякае пад корань наўпрост гарантаванае Канстытуцыяй права грамадзян на свабоду сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання.

Яшчэ болей: парламент мінулага склікання ўнёс у закон змены, якія пры пэўных касметычных паслабленнях насамрэч пагоршылі сітуацыю. У прыватнасці, таму, што на падставе новага закона Саўмін леташняй пастановай №49 устанавіў проста дзікія тарыфы на аплату паслуг міліцыі (плюс арганізатарам трэба заключаць дамовы з медыкамі ды камунальнікамі). Напрыклад, калі ўдзельнічае больш за тысячу чалавек, дык толькі на міліцыю трэба выкласці 250 базавых (6750 рублёў). А можа быць ужыты яшчэ і павышальны каэфіцыент 1,5.

Менавіта праз тое, што гэта непасільная даніна, арганізатары, дарэчы, часцяком і абіраюць шлях несанкцыянаваных акцый. Ды і ўвогуле, як гэта так – плаціць за рэалізацыю канстытуцыйнага права?

Летась у маі праваабарончыя арганізацыі звярталіся да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў папярэдняга склікання з заклікам унесці ў закон аб масавых мерапрыемствах змены, якія прывялі б яго ў адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі ў галіне правоў чалавека. Перадавалі праваабаронцы ў парламент і свае прапановы. Гэта я падкрэсліваю з нагоды таго, што, на думку дэпутата **Івана Мамайкі**, патрэбны нейкі зварот грамадзян, каб разгледзець пытанне.

Звыш таго, рэкамендацыі аб прывядзенні заканадаўства аб масавых мерапрыемствах у адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі неаднаразова адрасавалі Беларусі міжнародныя арганізацыі, у тым ліку Камітэт па правах чалавека ААН. АБСЕ дэкларуе такія прынцыпы, як прэзумпцыя на карысць правядзення сходаў, пазітыўны абавязак дзяржавы што да садзейнічання мірным сходам ды іх абароны, недыскрымінацыя тых ці іншых груп. Садзейнічанне і абарона, спадарства, а не паліцэйшчына!

Так што панам Давыдзьку, Гайдукевічу, Савіных ды іншым, хто робіць выгляд, што праблемы няма, карысна было б зазірнуць у тыя паперы. Там усё па палічках раскладзена.

І ў вас, панове, ёсць шанец выправіць сітуацыю, блiснуць на фоне папярэдняга склікання, выказаць пашану да Канстытуцыі. Калі вы сапраўды народныя абраннікі, асобная галіна ўлады, а не марыянеткі ўлады выканаўчай. Бо той, зразумела ж, найболей па душы, каб усе сядзелі як мыш пад мятлой, каб панаваў адмысловы спакой ды парадак, як на могілках. Але ж так і дзяржаву можна праспаць.

Мітынгі ж ды шэсці, натуральна, напружваюць вертыкаль. Аднак без гэтых ды іншых атрыбутаў дэмакратыі мы не створым нацыю свядомых, актыўных грамадзян, здольных гарантаваць незалежнасць краіны.

БРАВО!



## О, дива Мария!..

*...И зал, весь зал более чем в тысячу человек, запел вместе с ней! Сначала осторожно, а потом громче и громче. Ликуя и, кажется, плача от счастья...*

*(О потрясающем выступлении Марии Гулегиной в Большом театре читайте на 6-й стр.)*

ХТО ЁСЦЬ ХТО

## Марына Пятроў прыедзе ў Мінск у сакавіку

*Яна прызначана новым кіраўніком офіса ЕБРР у Беларусі*




Пятроў заменіць Аляксандра Піварскага, які чатыры гады працаваў на гэтай пасадзе і цяпер працягне сваю прафесійную дзейнасць у штаб-кватэры ЕБРР у Лондане.

«*Для мяне вялікі гонар працягваць справу, паспяхова распачатую маім папярэднікам, і я зраблю ўсё магчымае, каб і далей развіваць нашу дзейнасць у Беларусі, а таксама спрыяць распаўсюджванню перадавога вопыту ў галіне вядзення бізнесу ў краіне. Я планую развіць поспех, якога мы дабіліся ў прыватным і дзяржаўным сектары, і працягваць наш канструктыўны палітычны дыялог з уладамі*», – прыводзіць прэс-служба банка каментарый Пятроў.

Марына Пятроў – грамадзянка Малдовы. Яна працуе ў ЕБРР з 1995 года. Да нядаўняга часу з'яўлялася намеснікам кіраўніка ЕБРР ва Украіне.

Учора А.Лукашэнка падчас сустрэчы з кіраўніком Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця **Сумантрай Чакрабарці** пазнаёміўся з новай кіраўніцай прадстаўніцтва ў Мінску.

Дарэчы, Лукашэнка прапанаваў адну з беларускіх дарог назваць імем Чакрабарці, таму што, як паведамляе тэлеграм-канал "Пул першага", лепшыя дарогі пабудаваны пры падтрымцы гэтага банка.

*"Зможаце вымавіць "Дарога Чакрабарці"?"*, – і жартам і ўсур'ёз пытаюцца аўтары тэлеграм-канала, блізкага да прэс-службы Лукашэнкі.

**Галіна РУТ.**

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА




## «Всех под метлу в камеру, всех!»

Так образно Александр Лукашенко прокомментировал во время поездки в Добруш задержание руководителей предприятий сахарной отрасли, которые уличены в большой коррупции.

**Рисунок Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.**

БЛАГОТВОРИТЕЛЬНАЯ АКЦИЯ

## Чтобы и во втором квартале «Народная Воля» была в публичных библиотеках

Дорогие друзья!

Благотворительная акция по сбору средств для подписки на «Народную Волю» (для **600** публичных библиотек) продолжается. Завершится она тогда, когда будет собрана в полном объеме необходимая денежная сумма.

Списки фамилий тех, кто раньше откликнулся на просьбу редакции, печатались в ряде предыдущих номеров газеты. В последнее время перечисления поступили от следующих лиц:

Гончаровой Р.И.
Одинцовой Натальи Владимировны
Новицкого Вячеслава Юльяновича
Тарасевич З.Л.
Кищук Татьяны
Новосада Михаила Александровича
Міхнюк Вольгі
Шилова Петра Гавриловича
Писарчика Андрея Николаевича
Байдак Валентины Александровны
Рабеко Николая Михайловича
Полякова В.П.
Митина Льва
Малевича Марата Александровича
Кузмич Г.Н.

Спасибо Вам, отзывчивые люди!

Напоминаем: реквизиты для перечисления денег (произвольным платежом с отметкой «*Подписка для библиотек*») прежние:

**220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а**
**УНП 100961759**
**Банковские реквизиты:**
**Р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**в «Приорбанке» ОАО, ЦБУ 113**
**BIC: PJCBBY2X**

Одновременно хотим сказать: выражая искреннюю благодарность всем благотворителям, редакция газеты «Народная Воля» всегда готова наладить с Вами самые тесные отношения. Рады будем видеть Вас в нашем офисе по адресу: **Минск, ул.Энгельса, 34а**.

Контактный телефон: **8-017-328-68-71.**

ПРОЩАНИЕ

## Трагизм и свет



Ушел из жизни народный артист Борис Иванович Луценко.

Патриарх сцены, мэтр, легенда, классик...

Да что говорить, любимый театральный режиссер нескольких поколений белорусских зрителей. Он очень ждал день 5 февраля, чтобы почтить память друга и соратника Ростислава Ивановича Янковского, и, даже подписывая мне на память свою книгу «Исповедь грешного лицедея» за несколько дней до этой даты, ошибся и все-таки вывел своей рукой 05.02.2020.

Или не ошибся? Что-то чувствовал? Знал свое время? Ведь ушел на рассвете именно 5 февраля... К Янковскому на небеса. Опять вместе будут спорить об искусстве. Теперь уже вечно.

Годы, которые Борис Луценко стоял у руля Государственного драматического театра имени Максима Горького, назвали золотым периодом театра еще при жизни Бориса Ивановича. За неполное десятилетие с 1973-го по 1982 год Луценко создал там спектакли-шедевры, ставшие классикой белорусского театрального искусства. Один «Макбет» чего стоит! Спектакль был признан одной из лучших шекспировских постановок этой пьесы в мире и получил Гран-при на фестивале в Штутгарте.

Это был 1974 год. Через два года грянула, другого слова не подберу, «Трехгрошовая опера» Бертольда Брехта. Спектакль пользовался огромной популярностью у зрителей – например, мы всем журналистским курсом ходили на него не меньше трех раз. Следующей постановкой, от которой у театралов захватывало дух, была «Трагедия человека» Имре Мадача в 1979 году. Она получила Гран-при на Фестивале венгерской драматургии. И коллектив сразу был приглашен на гастроли в Будапешт и Сольнак.

Борис Луценко вывел Русский театр Минска на европейский уровень – это аксиома. Режиссера даже пригласили поставить спектакль «Ревизор» в Берлине – а это между тем 1980 год со всеми вытекающими. Но Луценко ведет себя очень вольно: он соглашается, уезжает в творческую командировку в Германию. Потом его ждет «Беларусьфильм», чтобы он снял «Раскіданае гняздо» Янки Купалы. Все идет по плану, все хорошо. Но буквально на пике славы и творческого всемогущества отдел культуры ЦК КПБ принимает решение об увольнении Б.И.Луценко из Русского театра. Его, как спринтера, который бежит на предельной, феноменальной скорости, вдруг взяли и грубо вытолкнули с дорожки. В пыль.

Борис Иванович подробно рассказывал об этом периоде жизни мне в интервью – как подбили птицу влет... Как даже попал от переживания в больницу, как ходил без работы, как звонил прямо из уличной телефонной будки заведующему отделом культуры Ивану Антоновичу. Нет, режиссера не оставили без работы. Это был «просто» воспитательный период. Потом ему предложили возглавить Минский театр-студию киноактера. Но... Несмотря на все успехи (и даже награды), такой высоты, такой искрометности мастер снова набрать уже не смог. Он пережил внутреннюю катастрофу и, возможно, до конца от нее не оправился. Хотя через годы снова вернулся в родной театр имени Горького, который стал при нем уже Национальным академическим. Прожил там еще три десятилетия сначала как художественный руководитель, а в последние годы как режиссер театра. И еще совсем недавно даже выходил на сцену вместе с народной артисткой Беллой Масумян в своем спектакле «Он и она» – попробовал себя еще и в актерском амплуа.

И вот настал день разлуки. Как невыносимо горько прощаться с людьми, которые формировали твое мировоззрение в молодости, которыми ты восхищался, которых ты безмерно уважал!.. По таинственному велению судьбы «Народная Воля» была последним СМИ, с которым встречался выдающийся режиссер Борис Иванович Луценко. Мы вспоминали о Ростиславе Ивановиче Янковском – интервью с режиссером напечатано в предыдущем номере. Луценко, несмотря на тяжелую болезнь, вдруг воспрял духом и рассказывал очень эмоционально. Хотя и грустил, конечно, – приближалась, как я уже писала, печальная дата памяти большого актера. «Отчего жизнь так скоротечна?» – вдруг задал мне на прощание риторический вопрос режиссер. «Какой трагизм... И в то же время сколько света!» – услышала я его тихие слова. Я, не умея поддержать по-другому, прижалась щекой к его щеке. Тепло его кожи чувствую до сих пор.

Вечная память Мастеру.

**Елена МОЛОЧКО.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИФА, профессор, доктор экономических наук

# Бродит, бродит призрак девальвации…

Проблемы в нефтегазовых и интеграционных отношениях Беларуси с Россией не находят своего разрешения. В январе был приостановлен экспорт нефтепродуктов – основной статьи валютных поступлений в страну. Белорусские НПЗ весь месяц работали не на полную мощность. Этого было достаточно, чтобы спровоцировать девальвационные ожидания населения и предприятий. В частности, физические лица в декабре минувшего года купили валюты на 929,3 миллиона в долларовом эквиваленте, что на 142,2 миллиона выше показателя ноября. В результате население купило валюты больше, чем продало, на 43 миллиона долларов, тогда как на протяжении почти трех лет оно было чистым продавцом валюты, чем поддерживало курсовую стабильность рубля. Уже после визита в Беларусь госсекретаря США М.Помпео резко выросли курсы доллара и евро: доллар с начала этой недели прибавил 1,06 копейки и стоил 2,15 рубля, евро прирос на 2,52 копейки до 2,38 рубля.

В целом 2019 год для белорусского рубля можно считать удачным, чему способствовали сбалансированная внешняя торговля с небольшим, но положительным сальдо, существенная чистая продажа инвалюты населением на внутреннем рынке и китайский кредит в конце года. Это в итоге привело к росту золотовалютных резервов до исторического максимума – 9,7 млрд долларов. Если в январе 2019 года курс белорусского рубля к доллару был 2,16, то в декабре – 2,11. По евро соответственно 2,46 и 2,34. За 100 российских рублей: 3,22 и 3,34. Вопреки многим прогнозам за прошедший год белорусский рубль к мировым валютам укрепился. Но немного девальвировался к российскому собрату, который усилился к доллару за год на 11%.

Курсовая стабильность в значительной степени была обеспечена жесткой монетарной политикой Нацбанка – его ставка рефинансирования и рублевые банковские процентные ставки были в два и больше раза выше уровня инфляции. Поэтому в течение 2019 года наиболее состоятельная часть белорусов увеличивала вклады в банках: срочные рублевые выросли на 26,5%, валютные много меньше – на 1,9%. Население поверило в национальные деньги, тем более что рублевые вклады стали заметно выгоднее, и соотношения между рублевыми и валютными сбережениями стали меняться в пользу первых. Хотя и на сегодня 66,3% своих сбережений физические лица хранят в банках в иностранной валюте. Дедолларизации экономики благоприятствовала и процентная политика Нацбанка. Если свободные рублевые средства на срок свыше года можно было разместить под 11–12% годовых, то валютные депозитные ставки с подачи главного регулятора банки утопили до 1–2%.

Однако менее состоятельная часть населения для поддержания более или менее комфортного уровня жизни продолжала раскупоривать свои валютные кубышки. В 2019 году белорусы продали наличной и безналичной валюты на 9,763 миллиарда долларов, а купили 9,166 миллиарда, то есть чистая продажа составила 598 миллионов «зеленых». Как видим, в декабре на фоне интеграционных «тёрок» с Москвой ситуация изменилась. Люди вновь стали задумываться о возможной девальвации белорусского рубля, и, как показывает начало года, не напрасно. При снижении экспорта, а значит, поступлений валюты в страну и росте доходов населения, который обещало правительство, а, как правило, это один из немногих показателей, который у нас перевыполняется (особенно к выборам), Нацбанк может и не удержать курсовую стабильность белорусской денежной единицы. Тем более что в ноябре-декабре наш «зайчик» подсел, чуть не испортив годовые показатели. Постоянно напрягает валютную ситуацию и необходимость обслуживания государственного долга, который в основной части и процентах превышает 3 миллиарда долларов и который Беларусь ежегодно рефинансировала на три четверти в основном с российской помощью, в чем нам отказано. Из 2 миллиардов долларов, которые правительству надо раздобыть, только полмиллиарда одолжил Китай, остальная валюта еще в проектах размещения облигаций на внешнем и внутреннем рынках.

В Беларуси может существенно измениться соотношение между рублевой и валютной частями денежной массы. Рублевая масса в стране в прошлом году тоже росла неслабо, увеличилась на 27,4% и достигла 21,523 миллиарда рублей. Временами в банковской системе возникал избыток рублевых ресурсов. В целом до сих пор Нацбанку удавалось связывать рубли на банковских депозитах, и они не разгоняли потребительскую инфляцию. Так, срочные депозиты юридических лиц за год выросли на 1,379 миллиарда рублей – до 4,747 миллиарда, физические лица тоже не отставали, увеличив свои срочные рублевые депозиты на 1,121 миллиарда – до 5,131 миллиарда рублей. Вообще, у нас физическим лицам на банковских счетах принадлежит в рублевом эквиваленте 59,6%, или 23,846 миллиарда всех денежных средств. Это говорит не столько о зажиточности нашего населения, сколько о бедности наших предприятий.

Таким образом, в изменившейся экономической и политической обстановке в стране растут риски девальвации белорусского рубля. В условиях сокращения валютной экспортной выручки, что приведет к росту спроса на валюту со стороны населения и предприятий, повышаются риски обвальной девальвации национальной денежной единицы. Особенно если Нацбанк не станет вмешиваться в свободные биржевые валютные торги и предпочтет сохранить государственные золотовалютные резервы. Первым сигналом поддержки слабеющего рубля со стороны главного регулятора может стать возврат к норме обязательной продажи на бирже части валютной выручки предприятий. Конечно, никому не хочется сказать: давно такого не было и вот опять…

ПАЛІТКУХНЯ



## Анатоль ЛЯЎКОВІЧ: «І дзе той Казулін сёння?»

*У свой час аднаго з кіраўнікоў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі **Анатоля Ляўковіча** разам з іншымі беларускімі палітыкамі запрашалі нават да прэзідэнта ЗША Джорджа Буша. "Народная Воля" пацікавілася, чым сёння займаецца палітык, якога называлі вялікім камбінатарам.*

**– Анатоль Іосіфавіч, я так разумею, вы махнулі на ўсё рукой і канчаткова сышлі з палітыкі на пенсію?**

– Я зараз у санаторыі пад Мінскам, адпачываю.

**– На прафсаюзнай пуцёўцы?**

– Не, я не член прафсаюза. Мне як пенсіянеру далі пуцёўку са зніжкай, аплаціў толькі 15 працэнтаў ад поўнага кошту. Атрымалася амаль бясплатна – 105 рублёў 90 капеек. У санаторыі добрае жыццё: кормяць смачна, працэдуры робяць. Што яшчэ трэба? Вырашыў крыху адпачыць ад жонкі і дзяцей. Таксама трэба!

А што тычыцца палітыкі, то я не адышоў ад спраў. Калі і адыду, то толькі на той свет! У мяне ёсць канкрэтныя прапановы, якія фармулюю і дасылаю ва ўладныя структуры. Бо лічу, што сёння ўлада, як ніколі, павінна працаваць з грамадствам.

**– Вы ўзначальвалі аргкамітэт па стварэнні грамадска-асветніцкага аб'яднання «Сацыял-дэмакраты за дыялог і кансалідацыю» і марылі аб'яднаць усіх сацыял-дэмакратаў у адну ідэальную партыю...**

– Аргкамітэт існуе. Але, каб здзейсніць усе мае мары, патрэбны фінансавы рэсурс. Таму наш аргкамітэт па ўтварэнні новага аб'яднання – гэта шырокая пляцоўка для аб'яднання ўсіх беларускіх сацыял-дэмакратаў у адзіную моцную партыю.

**– Але гэта ўтопія…**

– Часткова пагаджуся. Пры нашых кіраўніках сацыял-дэмакратычных партый гэта сапраўды цяжка зрабіць. З імі немагчыма сур'ёзна гаварыць!

**– Ну а чым вам, напрыклад, той жа Ігар Барысаў не падабаецца? Разумны, па-англійску гаворыць, партыйную структуру адбудоўвае, прыгожы, камунікабельны…**

– Я яго ведаю яшчэ з тых часоў, калі быў старшынёй партыі. І тады ад яго сыходзілі толькі ініцыятывы наконт ЛГБТ-супольнасці.

**– Клапоцяцца чалавек пра правы сексуальных меншасцяў, што ж тут дрэннага?**

– І ў сваім першым праграмным інтэрв'ю ў якасці старшыні партыі Барысаў таксама пра гэта казаў. Але ж гэта не галоўная, не прыярытэтная тэма на сённяшні дзень! Калі б ён спачатку стварыў моцную, пазнавальную сацыял-дэмакратычную партыю, большасць сябраў якой была б прадстаўлена ў Палаце прадстаўнікоў, я яшчэ зразумеў бы размовы пра правы сексуальных меншасцяў, а так… Не разумею!

Але я добра ведаю і іншых сацыял-дэмакратаў. Не знаёмы асабіста толькі з Сяргеем Чэрачнем, які цяпер узначальвае былую шушкевічаўскую партыю "Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада". Але, з іншага боку, і ён мог бы праявіць ініцыятыву. Як бы там ні было, я ўсё ж такі мамант у беларускай палітыцы! Мог бы і параіцца са мной па нейкіх пытаннях…

**– А што вы думаеце наконт адзінага кандыдата ад апазіцыі?**

– Марная справа, нічога не атрымаецца! Ну што, хіба ў нас спецслужбы дрэнна працуюць? Лепей за ўсе дзяржаўныя інстытуты!

І калі нават апазіцыя і здолее аб'яднацца і выбраць адзінага і жаданага, усё роўна без санкцыі спецслужб нічога не адбудзецца. Усе гэтыя сцэнарыі даўно адрэпеціраваны як па нотах! Толькі хіба былы рэктар БДУ Аляксандр Казулін мог думаць, што яго ніхто са спецслужб не вядзе і не кантралюе. Я пальцам паказваў на некаторых людзей з яго атачэння, а ён не верыў. І дзе той Казулін сёння?

Але, паўтаруся, нават калі і з'явіцца адзіны кандыдат, сітуацыя ўсё роўна застанецца пад кантролем спецслужб. Аляксандр Лукашэнка так проста сваю ўладу не аддасць. Таму не варта чакаць сенсацый ад вынікаў прэзідэнцкай кампаніі…

ЛОБ У ЛОБ



## Ігар БАРЫСАЎ: «Ляўковіч загнаў арганізацыю ў даўгі…»

*"Народная Воля" запыталася ў цяперашняга старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Ігара Барысава, ці сапраўды для яго правы сексуальных меншасцяў – прыярытэтная тэма.*

– Пытанне адносна ЛГБТ-супольнасці дагэтуль у БСДП не мае кансэнсусу. Але, мяркую, што гэта тэма і для Анатоля Ляўковіча вельмі блізкая, – *шчыра усміхнуўся старшыня БСДП*. – У нас няма сталых кантактаў з ЛГБТ-супольнасцю. Прыгадваю толькі, як у 2008 годзе на адрас нашай партыі прыйшло запрашэнне ўзяць удзел у канферэнцыі ЛГБТ у Мінску ў гатэлі "Кроўн-плаза". Я далажыў пра гэта на прэзідыуме, і мяне вырашылі накіраваць на канферэнцыю, каб зрабіў там выступленне. На тым мерапрыемстве з партыйных функцыянераў былі толькі я і тагачасны кіраўнік Беларускай партыі "Зялёныя" Алег Новікаў. Астатнія лідары партый праігнаравалі запрашэнне. Больш тэма ЛГБТ у нашай партыі не ўзнімалася, бо не было тых, хто лічыў не прыярытэтнай і лабіраваў.

У 2017 годзе мы прынялі "Праграму дзеяння БСДП", дзе ў адным з пунктаў прапісалі недапушчэнне дыскрымінацыі: "БСДП выступае за адкрытае грамадства, дзе няма дыскрымінацыі паводле полу, рэлігіі, расы, нацыянальнасці, палітычных поглядаў, сексуальнай арыентацыі, а таксама дыскрымінацыі людзей з абмежаванымі магчымасцямі. БСДП выступае супраць знявагі, нянавісці і пагроз у дачыненні да гэтых катэгорый людзей у публічнай прасторы".

Між іншым, некаторыя партыйцы дагэтуль памятаюць скандал, які адбыўся з удзелам Анатоля Ляўковіча, калі той пачаў прыставаць у лазні да аднаго з сябраў ЦК, што ледзь не скончылася вялікай бойкай.

Таму ў БСДП усе ведаюць, хто ЛГБТ-тэарэтык, а хто ЛГБТ-практык, аднак мы гатовы прыняць спадара Ляўковіча такім, які ён ёсць, і разглядзець яго ініцыятывы па абароне ЛГБТ-супольнасці.

Аляксандру Іосіфавічу не трэба крывідзь душой, бо і падчас яго старшынства ў партыі ў парламенце не было ніводнага дэпутата ад БСДП. Больш за тое: ён загнаў арганізацыю ў даўгі і стварыў у партыі крызіс, з якога прыйшлося выходзіць некалькі год. Так што ролю гэтага чалавека ў партыі ўсе ведаюць…

Марына КОКТЫШ.

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

## «…Школу ўжо поўнасцю закрылі, і табе пара ў псіхушку ехаць»

*Тры з паловай гады цягнецца канфлікт жыхароў аграгарадка Каплічы з мясцовымі чыноўнікамі наконт зачыненай тут на рамонт беларускамоўнай школы. Шматлікія звароты ў розныя ўладныя інстанцыі станоўчага выніку не мелі. У адказ ляцелі адпіскі: у бюджэце бракуе сродкаў на яе рамонт.*

*Найбольш актыўна адстойвае школу грамадская актывістка, маці траіх дзяцей **Роза Стрэльчанка**. Вяскоўцы на мясцовых выбарах 2018 года нават абралі яе дэпутатам Капліцкага сельскага Савета, каб яна, маючы адпаведны статус, магла і запыт чыноўнікам накіраваць, і зварот сельсавета ініцыяваць.*

*"Пайшла пагалоска, што ў нашай закансерваванай школе збіраюцца нібыта лесапілку рабіць, – кажа дэпутат Стрэльчанка. – Пачалі ўжо руйнаваць гаспадарчыя пабудовы – склеп ды іншае".*

### Шашаль вінаваты

Школа ў Каплічах у яе цяперашнім выглядзе паўстала крыху больш за паўстагоддзя таму, калі да існуючага на той час будынка дадалі прыбудоўку. У 2007 годзе праз упраўленне капітальнага будаўніцтва Калінкавіцкага райвыканкама школу даследавалі і адрамантавалі. Падрадчыкам узялі ТАА "Вега". Будаўнікі замянілі вокны на ПВХ, дзверы новыя паўстаўлялі, адрамантавалі і пафарбавалі фасад, упарадкавалі тэрыторыю. Але ўжо ў 2016 годзе ў кабінеце літаратуры вываліўся кавалак столі. З таго і пачаліся ўсе беды.

Спецыялісты з навукова-даследчай лабараторыі будаўнічых канструкцый Белдзяржуніверсітэта транспарту вызначылі, што шашаль "пашаткаваў" шэраг папярочных драўляных бэлек. Дадалася яшчэ вільгаць, і частка будынка сталася небяспечнай.

### Міністр: хопіць трагедыі ў Краснаполлі

Гомельскі аблвыканкам і Калінкавіцкі райвыканкам разводзілі рукамі: людцы дарагія, няма грошай на рамонт! Год няма, другі няма. Вяскоўцы заселі за паклонныя лісты, звароты, тэлефоны, дзяліліся сваёй бядою з журналістамі, пісалі ў сацыяльныя сеткі. Роза Стрэльчанка, нягледзячы на хворыя ногі, ездзіла нават у Адміністрацыю прэзідэнта, але на прыём не прабілася.

Паўтара года таму ў Калінкавічы наведаўся міністр адукацыі Ігар Карпенка. Дэпутат Стрэльчанка з яшчэ дзвюма мамамі школьнікаў кінулася да яго. Міністр супакойваў жанчын: школу не закрылі, а толькі прыпынілі дзейнасць з-за аварыйнага стану будынка. Маўляў, хопіць трагедыі ў Краснапольскай школе на Магілёўшчыне, дзе падчас урока фізкультуры абваліўся дах у спартзале. Сродкаў у міністэрства на рамонт і будаўніцтва школ няма – усе грошы на гэтыя мэты ў мясцовых улад. Яны і вызначаць разам з рэгіянальным упраўленнем адукацыі, што рабіць далей: рамантаваць школу ў Каплічах, будаваць новую ці прыцягваць вазіць дзяцей у бліжэйшую суседнюю школу.



Роза Стрэльчанка (справа) з аднавяскоўкамі.

### Лічбы выканкама і дэпутата

Райвыканкам стаяў на сваім і адказваў Розе Стрэльчанка на запыты, што кошт рамонту школы заўважна перавышае затраты на арганізацыю падвозу вучняў. У пацвярджэнне прыводзіліся лічбы: на падвоз дзяцей цягам года выдаткоўваецца 55 тысяч рублёў (40 тысяч – транспартныя паслугі і каля 15 тысяч – заробак двум кіроўцам). На рэканструкцыю патрэбна нашмат болей.

У Розы Стрэльчанка свой рэзон: суму на падвоз дзяцей трэба памнажаць у два ці нават тры разы і з такіх падлікаў разглядаць сітуацыю. Бо замены даху ў аварыйнай школе вазіць навучэнцаў давядзецца пастаянна, а не год, не два і не тры.

### Пра псіхушку і вобшук з сабакам

Настойлівасць Розы Стрэльчанка, падобна, некага раздражняла. Бо нечакана жанчына стала атрымліваць на мабільнік SMS-паведамленні з пагрозамі, прычым кожны раз з новага нумара. Калінкавіцкая міліцыя, аднак, не магла вызначыць зламыснікаў, якія дасылалі такія паведамленні. Дайшло да таго, што Розе Віктараўне аднойчы патэлефанавалі з нумара прыёмнай упраўлення спраў Гомельскага аблвыканкама. На пачатку жаночы голас павіншаваў яе з абраннем дэпутатам сельсавета, а потым прагучалі далёка не жартоўныя словы: "Усё адно будзеш ляжаць у псіхушцы".

Кіраўніца спраў аблвыканкама Алена Клічкоўская, з прыёмнай якой быў зроблены званок, раней працавала ў Калінкавічах у райвыканкаме і асабіста ведала Розу Стрэльчанка. На гарачых слядах яна тлумачыла журналістам, што была занята з ветэранамі, Розе Віктараўне не тэлефанавала. Сакратарка прыёмнай таксама чуць не чула і бачыць не бачыла нічога такога.

Тым часам зламыснікі дайшлі да адкрытых правакацый. Летась у лютым нібыта ад імя жыхаркі вёскі Каплічы ў Міністэрства адукацыі быў накіраваны электронны зварот такога зместу: калі ў аграгарадку не адчыняць школу, яна ўзарве будынак разам з сабой. І закруцілася! Зачыненую школу ачапіла міліцыя, дзяцей з садка і жыхароў з бліжэйшых дамоў эвакуіравалі. Следчыя ўчынілі ў доме Стрэльчанка вобшук з сабакам, яе саму апыталі. На дадатак забралі на праверку сістэмны блок камп'ютара.

Цалкам зразумела, што ніякіх выбуховых прыстасаванняў у нядаўна абранага дэпутата не было і быць не магло. Ілжывых паведамленняў у міністэрства шматдзетная маці таксама не дасылала. Яна перакапана, што ўчыненыя правакацыі – гэта гнюсная помста за яе актыўную пазіцыю ў адстойванні сваёй школы.

### Дарослы заморыцца

Як маці Стрэльчанка перажывае за дзяцей. Ехаць малалеткам з Капліч на заняткі ў вёску Шыічы, дзе ёсць не поўнасцю загружаная двухпавярховая школа, трэба 14 кіламетраў, з Кротава – 22, са Старых Навасёлак – ажно 30. Пачаткоўцы на восем і больш гадзін на дзень аддаюць пераездам і вучобе. Дарослы заморыцца, не кажучы ўжо пра дзяцей.

"Возяць у школу ў Шыічы не пяць і не дзесяць навучэнцаў, а 74, – тлумачыць Роза Віктараўна. – У двух аўтобусах агулам толькі 55 месцаў. Значыць, трэба большаму аўтобусу рабіць два рэйсы ў школу і назад. Вось і бякчыць час".

Наша суразмоўца дадае, што ў дзіцячы садок у Каплічах ходзяць два з паловай дзясяткі хлопчыкаў і дзяўчынак. Амаль столькі ж і тых, хто яшчэ не мае трох гадоў і падрастае дома. Значыць, калі аднавіць школу, то пуставаць яна не будзе.

### Дапамажы, Сусветны банк!

Разумеючы, што ў мясцовым бюджэце дзірка нікольні не меншае, чым у столі аварыйнай школы, Роза Стрэльчанка адкрыла адмысловы рахунак у банку, каб праз грамадскія ахвяраванні збіраць грошы на рэканструкцыю. А калі дазналася, што Сусветны банк выдзеліў дадаткова 90 мільёнаў еўра дзеля лепшага навучання школьнікаў, падаўжэння мадэрнізацыі школ і аснашчэння іх абсталяваннем у межах праекта "Мадэрнізацыя сістэмы адукацыі Рэспублікі Беларусь", падрыхтавала зварот. Яго падпісалі каля сотні жыхароў Каплічаў. Вяскоўцы прасілі беларускае прадстаўніцтва Сусветнага банка дапамагчы ім адрамантаваць школу, а таксама сачыць за справядлівым размеркаваннем сродкаў. Спадзяванні грунтаваліся на паведамленні банка аб тым, што праз фінансаванне "65.000 школьнікаў з малых гарадоў і вёсак па ўсёй Беларусі змогуць вучыцца ў адрамантаваных школах з новым лабараторным абсталяваннем".

Зварот вяскоўцы падпісалі мінулым летам хутчэй ад безвыходнасці. Хапаліся, як кажуць, за саломінку. Добра ўсведамлялі, што сродкі Сусветны банк выдзеліў, але на мадэрнізацыю якіх установ адукацыі яны пойдуць, вырашаюць выканаўчыя органы ўлады. Жыхарам Каплічаў на любы запыт толькі і кажуць: вось зменіцца дэмаграфічная сітуацыя ў аграгарадку, тады, маўляў, і з рэканструкцыяй школы будуць разбірацца. Але ж як дэмаграфія можа змяніцца ў лепшы бок без школы? Пагатоў наадварот. Без школы вёска звычайна старэе і памірае.

"Складваецца ўражанне, – кажа Роза Стрэльчанка, – што будынак нашай зачыненай школы ўлады хутка выставяць на продаж, можа, нават за адну базавую велічыню".

### Паведамленне ў Viber

Днямі на адрас няўрымслівага дэпутата зноў адна́віліся пагрозы. Праз Viber Роза Стрэльчанка атрымала такое паведамленне: *"Ты, тоўста...я, туп...я авечка, школу ўжо поўнасцю закрылі, і табе пара ў псіхушку ехаць. Там табе час і месца+харчаванне тры разы ў дзень. Хопіць пісаць скаргі. Інакш чакай наступстваў як фізічных, так і маральных".*

На чарговую пагрозу адрэагаваў у Facebook вядомы грамадскі актывіст і палітык Павел Севярынец. Яго моцна абурыла тое, што нейкія паскуды подла прысылаюць жанчыне смярдзючыя пагрозы.

Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.

### АД РЭДАКЦЫІ

"Народная Воля" не можа сказаць, як у рэшце рэшт вырашыцца праблема са школай у аграгарадку Каплічы Калінкавіцкага раёна. Але мы хочам звярнуць увагу вось на якую акалічнасць. Што ж гэта, людцы, робіцца: замест таго каб разам з дэпутатам сельскага Савета Розай Стрэльчанка, усімі тутэйшымі жыхарамі знайсці разумнае выйсце з узніклай сітуацыяй, нейкія, прабачце, адмарозкі не проста абражаюць актывістку, але маюць намер давесці яе да нервовага зрыву. За такое беспардоннае цкаванне чалавека павінна быць самая суровая адказнасць. І тут, спадзяёмся, сваё слова скажуць адпаведныя органы.

КУЛУАРЫ

## Алесь БЯЛЯЦКІ:
# «Гэта ясны сігнал і нам, і ўладам…»

*Беларускі праваабаронца распавёў “Народнай Волі” пра свае ўражанні ад сустрэчы з дзяржаўным сакратаром ЗША Майкам Пампеа.*

Як вядома, дзяржсакратар ЗША падчас візіту ў Мінск сустракаўся не толькі з вышэйшым беларускім кіраўніцтвам, але і з прадстаўнікамі дэмакратычнай грамадскасці.

На сустрэчы з высокім амерыканскім чыноўнікам прысутнічалі **Сяргей Драздоўскі** з Офіса па правах людзей з інваліднасцю, старшыня ГА “Таварыства беларускай мовы” **Алена Анісім**, старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта **Алег Гулак** і кіраўнік незарэгістраванага праваабарончага цэнтра «Вясна» **Алесь Бяляцкі**.

– Майк Пампеа хацеў наведацца ў Беларусь месяц таму, і мяне яшчэ тады запрасілі з Пасольства ЗША на сустрэчу з дзяржсакратаром ЗША, – кажа **Алесь БЯЛЯЦКІ**. – Праўда, як вядома, візіт быў перанесены. І, шчыра кажучы, я нават не ведаў, хто быў яшчэ запрошаны, даведаўся пра гэта толькі ў пасольстве ЗША.

**– Вы зараней абмяркоўвалі тэмы для гутаркі?**

– Паміж сабой мы пра гэта, безумоўна, пагаварылі, бо сустрэча была абмежавана 30 хвілінамі. Калі ўлічваць, што патрэбны быў час і на пераклад, то чатыром чалавекам неабходна было ўкласціся ў 15 хвілін. Кожны меў магчымасць на выступленне па 3–4 хвіліны, і за гэты час тэзісна трэба было сказаць самае галоўнае, што мы хацелі данесці да дзяржсакратара ЗША. І важна было не паўтарацца.

**– Пра што ішла размова?**

– Найперш – пытанне незалежнасці Беларусі, і гэтую тэму закраналі ўсе запрошаныя. Для нас гэта надзвычай важна, бо, маючы незалежную краіну, мы, адпаведна, і далей можам некуды ісці – будаваць планы па стварэнні дэмакратычнай краіны, па правах чалавека і гэтак далей.

У той жа час мы казалі, што асаблівага паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі не адбываецца. І для мяне зразумела, што заява Пампеа на сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнкам, што сітуацыя ў гэтым накірунку ўсё-такі мае пазітыўныя зрухі – гэта своеасаблівы рэверанс у бок беларускага ўрада.



**Злева направа: Алег Гулак, Майк Пампеа, Алена Анісім, Сяргей Драздоўскі, Алесь Бяляцкі.**

Дарэчы, калі дзяржсакратар ЗША каментаваў нашы кароткія выступленні, ён сказаў, што фактычна ўсё, пра што мы яму казалі, ён ужо абмяркоўваў з беларускім кіраўніком і міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем. Значыць, яго памочнікі ўжо падрыхтавалі да сустрэчы па асноўных праблемах, якія ёсць у нашай краіне. Гэтыя праблемы звязаны з вельмі моцным абмежаваннем грамадска-палітычных правоў, з адсутнасцю свабодных выбараў, пераследам людзей за масавыя сходы, а таксама журналістаў і блогераў.

**– Майк Пампеа задаваў вам нейкія пытанні?**

– Не, былі толькі яго каментарыі нашых выступленняў, таму паўгадзіны адпрацавалі, можна сказаць, на адной хвалі.

Увогуле, гэту сустрэчу я ацэньваю як ясны сігнал з боку ЗША аб салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі. Гэты сігнал яны адначасова паслалі і нам, і беларускім уладам.

**Алесь СІВЫ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Юрый РУБЦОЎ:
# «Складана ў такім узросце пачынаць жыццё з нуля…»

*Беларускі палітэмігрант распавёў “Народнай Волі” пра сваё жыццё ў Германіі.*

Нагадаем, што гамяльчанін **Юрый Рубцоў** стаў вядомы як “чалавек-майка”. На вулічныя акцыі апазіцыі ў Мінску ён выходзіў у майцы з палітычнымі надпісамі. Самым вядомым стаў лозунг “Лукашэнка, сыходзь!”.

У кастрычніку 2014 года Рубцова асудзілі на два з паловай гады абмежавання волі ў папраўчай установе адкрытага тыпу, абвінаваціўшы ў абразе суддзі. На “хіміі” Рубцоў адмаўляўся працаваць, патрабуючы годнага заробку, і трымаў галадоўку.

28 мая 2015 года суд прыгаварыў Рубцова да двух гадоў калоніі агульнага рэжыму, але 22 жніўня яго ў ліку іншых палітвязняў Аляксандр Лукашэнка памілаваў сваім указам.

Пасля гэтага Юрый Рубцоў папрасіў палітычнага прытулку ў Германіі, і спачатку нямецкія ўлады прынялі рашэнне не на карысць беларускага бежанца.

– Я вырашыў змагацца да канца, а таму з дапамогай міжнародных праваабарончых арганізацый падаў апеляцыю на адмову мне ў палітычным прытулку, – кажа **Юрый Рубцоў**. – І новы суд адмяніў папярэдняе рашэнне. Пакуль мне дазволілі застацца ў Германіі яшчэ на тры гады.

**– Рашэнне з’ехаць у Германію выспявала доўга ці гэта быў спантанны крок?**

– Гэта рашэнне не маё, а сям’і – жонкі і сына. Я вымушаны быў падпарадкавацца, хаця і не хацеў нікуды з’язджаць. Але ў той жа час я не маю права псаваць жыццё сваім блізкім. Упэўнены, і жонцы было не нашмат лягчэй: бегаць, шукаць, дзе я знаходжуся – працэдура малапрыемная.

А ў Германіі я ўжо і сам прыняў канчатковае рашэнне папрасіць палітычнага прытулку.

**– Як першы час пачуваліся ў чужой краіне?**

– Магу сказаць адно: Беларусь яшчэ доўга не будзе жыць так, як зараз жыве Германія. Маю на ўвазе ўзровень жыцця людзей. Што тычыцца мяне, то найбольш складанай праблемай для мяне было вывучэнне нямецкай мовы, гэта давалася мне з цяжкасцю.

Пакуль маёй справай займаліся адвакаты, тры разы на тыдзень хадзіў на курсы нямецкай мовы. Падзарабляў памочнікам хатняга майстра ў інтэрнаце, у якім жыў. Жыццё было аднастайнае. Але ў матэрыяльным плане цяжкасцяў не было.

**– А што ўваходзіла ў абавязкі памочніка хатняга майстра?**

– Мяняў перагарэлыя лямпачкі, паламаныя замкі ў дзвярах. Напрыклад, аднойчы давялося выломліваць дзверы ў пакоі, у якім неспадзявана зачыніліся малыя і адкрыць замок не маглі. Збіраў мэблю жыхарам, ліквідаваў засоры ў каналізацыі на кухні і цечы ў водаправодзе. Нават вентыляцыю чысціў. Адным словам, наводзіў парадак у доме.

Суседзі, грамадзяне Германіі, часам прасілі дапамогі, так што ім таксама не адмаўляў. Мяняў колы на аўто, падчас дапамагаў занесці мэблю. Асабліва сумаваць не даводзілася.



**– Быў нейкі фіксаваны заробак?**

– Была дапамога ад нямецкага ўрада – 315 еўра і не вельмі вялікі заробак, хаця я працаваў афіцыйна. Наогул, у Германіі мінімальная аплата адной гадзіны – не менш за 8 еўра. Але я – не грамадзянін Германіі, таму прапаноўвалі падпрацоўку, якая аплачвалася па 80 цэнтаў за гадзіну, а працаваць можна было чатыры гадзіны ў дзень. У выніку ў месяц выходзіла 68 еўра.

Хатні майстар – гэта такая грамадская нагрузка з невялікай аплатай. Я, шчыра кажучы, не хацеў гэтым займацца, але майстар, убачыўшы мае вырабы з дрэва, настаяў на тым, каб менавіта мяне ўзялі да яго памочнікам, хоць былі і іншыя жадаючыя на гэтае месца.

**– Чым зараз займаецеся?**

– Атрымаў нямецкі пашпарт тэрмінам на 3 гады і працягваю наведваць заняткі па вывучэнні нямецкай мовы. Я ўжо здаў першы моўны тэст і ў выніку атрымаў накіраванне на прафесійныя курсы нямецкай мовы.

Хаджу туды як на працу – з 8 раніцы да 4 дня. Вучоба заканчваецца 14 лютага, затым – экзамен. І толькі пасля здачы яго будзе вырашацца пытанне аб маім працаўладкаванні.

Жонка таксама скончыла асноўныя курсы па вывучэнні нямецкай мовы, але працягвае вучобу.

**– Матэрыяльнае становішча задавальняе?**

– Пакуль вучымся, жывём на дапамогу і зараз не працуем, але на жыццё грошай хапае. Кватэры сваёй таксама пакуль не маем, але жывём у Нюрнбергу ў вельмі добрых умовах.

У Германіі пакоі ў інтэрнаце лепшыя, чым у нас некаторыя кватэры. Таму ў гэтым плане ўсё добра. Праблема ў іншым. Мне ўжо хутка 60 гадоў, і ў такім узросце вельмі складана пачынаць жыццё, можна сказаць, з нуля ў чужой краіне.

**– У родныя мясціны не збіраецеся наведацца?**

– Я не магу наведаць Беларусь па дзвюх прычынах. Па-першае, у Германіі ў мяне застаецца статус палітычнага бежанца і мне не дазволена пакідаць краіну.

Па-другое, ёсць усё-такі апасенні, што ў Беларусі мне могуць адпомсціць за тое, што я папрасіў палітычнага прытулку, і зладзіць нейкую правакацыю. Падчас вельмі цягне на Радзіму, але што паробіш…

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПАДЗЕЯ



**У Мінску каторы дзень праходзіць XVII Міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш.**

ТОЧКИ НАД «І»

# …От минимального размера пенсии по возрасту

В «Народной Воле» за 31 января в публикации **«Полтора и два рубля»,** в которой шла речь о повышении некоторых видов пенсий и пособий с 1 февраля, к сожалению, имеется одна неточность. Но не в цифрах – все размеры доплат указаны правильно.

Безусловно, доплаты к пенсиям неработающих пенсионеров, достигших 75-летнего и 80-летнего возраста, привязаны не к бюджету прожиточного минимума, как было указано в таблице, а к минимальному размеру пенсии по возрасту. Для неработающих пенсионеров, достигших 75 лет, эта доплата составляет 75 процентов от минимального размера пенсии по возрасту, для тех, кому за 80, – 100 процентов. В свою очередь, минимальная трудовая пенсия по возрасту зависит от БПМ и составляет 25 процентов от него, с 1 февраля 2020 года это 59 рублей 97 копеек.

Пользуясь случаем, сделаем еще одно уточнение. В этом же номере газеты несколько раз упоминается имя и фамилия **Валерия Бельского,** которого только что назначили заместителем главы Администрации президента Республики Беларусь. Но в двух случаях допущена опечатка в его имени. Приносим извинения Валерию Ивановичу и читателям.

УГОЛ ЗРЕНИЯ

# Социология и Костюшко

В интернете появились данные о результатах декабрьского социологического опроса, проведенного в Беларуси расположенной в Варшаве Белорусской аналитической мастерской (БАМ). Цифры, прямо скажем, интересные. В течение 2019 года число сторонников союза с Россией среди граждан Беларуси снизилось с 60,4% до 40,4%. При этом наиболее крутое падение показателя произошло с сентября по декабрь: с 54,8% до 40,4%.

Сайт телеканала «Белсат», опубликовавший эту информацию, делает заключение: «Таким образом, если завтра состоится референдум по поводу геополитического выбора Беларуси, то сторонники союза с Россией не смогут получить абсолютного большинства голосов». Заключение, на мой взгляд, слишком оптимистическое, поскольку не учитывает перспектив явки на этот предполагаемый референдум. Ибо в случае явки в 50% + 1 голос этот самый показатель может серьезно вырасти.

Впрочем, может и упасть. Как мы помним, именно в течение последнего квартала минувшего 2019 года все более разгорался конфликт Дроздов и Кремля по поводу цен на энергоносители, так что вся белорусская государственная пропагандистская машина резко сменила тональность в отношении перспектив союза РФ и РБ. И акции оппозиции, сколь бы малочисленными они ни были, в конце концов усилили информационный фон противостояния. Так что можно предположить: случись действительно необходимость – с точки зрения власти – проведения подобного референдума, результаты его будут колебаться в зависимости от того, как наш «госагитпроп» повернет.

И это заставляет истинных сторонников суверенитета не расслабиться от утешительных на первый взгляд цифр, полученных социологами из БАМ, сколько, наоборот, мобилизоваться. Когда подобные колебания напрямую зависят от работы государственных пропагандистов – а значит, от воли одного человека, – успокаиваться никак нельзя.

Ибо для значительной части чиновников сама постановка вопроса носит конъюнктурный характер.

Думаю, наши читатели еще не успели забыть скандал с попыткой группы граждан Республики Беларусь увековечить память о нашем земляке Тадеуше Костюшко в столице Беларуси. Дошли они тогда аж до Национальной академии наук, причем пошедший по их стопам журналист газеты «Наша Ніва» Змитер Панковец услышал из уст главного историка страны – члена-корреспондента НАН, академика-секретаря отделения гуманитарных наук и искусств Александра Ковалени – дословно следующее (цитируем по газете «Наша Ніва»): «Если бы Суворов не разбил Костюшко, то не было бы никакой Беларуси». И далее: «Суворов разбил Костюшко, и это позволило остановить полонизацию белорусского народа. Понятно тебе?»



**Памятник Тадеушу Костюшко в Нью-Йорке**

Ну, понятно стало не только Змитру Панковцу, но и всем читателям независимых медиа. Не о Костюшко говорим, с ним как раз все было понятно и без Ковалени, а вот насчет Ковалени точно стало понятно. И сейчас сравним его тезисы с тем, что говорил о Костюшко 4 февраля министр иностранных дел Владимир Макей. Цитируем репортаж БЕЛТА: *«Беларусь гордится тем, что жизненный путь Костюшко начался именно на земле современной Беларуси. Затем этот путь пролег через Варшаву во Францию и дальше в Америку. Насыщенная событиями жизнь Костюшко завершилась в Швейцарии». «Повсеместно Тадеуш Костюшко оставил о себе глубокий и незабываемый след»,* – убежден глава белорусского МИД. Он обратил внимание, что память об уроженце белорусской земли увековечена не только в самой Беларуси. В мире насчитывается более 200 памятников, посвященных Костюшко. А 2017 год был провозглашен комиссией ЮНЕСКО Годом памяти Тадеуша Костюшко.

Комментариев господина Ковалени по поводу слов министра пока не последовало. А если и последуют, то будут они носить, скорее всего, примиряющий характер: мол, у меня как у ученого-историка есть свое видение того или иного события, я его и высказал. А у Макея, следовательно, свое. Владимир Владимирович ведь еще 20 января заявил (цитирую БелаПАН): *«Например, я считаю, что абсолютно неправильно, когда Игната Домейко в Чили и Тадеуша Костюшко в США воспринимают как представителей другого государства. Поэтому мы просто обязаны сделать так, чтобы белорусская история была написана объективно, чтобы видели, что корни белорусского государства уходят далеко в прошлое и что нам есть чем гордиться».*

Вот если бы сейчас почтенному академику-секретарю пришлось высказать публично свое мнение – оно отличалось бы от мнения министра? И насколько отличалось бы?

Это далеко не пустой вопрос. Колебания в оценках белорусской истории в амплитуде своей четко отражают колебания в настроениях той части общества, которая ориентируется строго на государственную пропаганду. Сменится вектор пропаганды – сменится и отношение к тому или иному вопросу. А стало быть, и к вопросу о том, является ли респондент сторонником союза с Российской Федерацией. И социология бесстрастно отразит эту перемену.

Так что успокаиваться рано. Наоборот, впору беспокоиться.

**Александр ФЕДУТА.**

Станіслаў ШУШКЕВІЧ

# Маё жыццё

*(Працяг. Пачатак у №10.)*

## Пра сябе: храналогія і статыстыка

Я нарадзіўся 15 снежня 1934 года ў Мінску. У 1951 годзе з медалём скончыў сярэднюю школу, у 1956-м – фізіка-матэматычны факультэт універсітэта, у 1959-м – аспірантуру Інстытута фізікі Акадэміі навук БССР. У 1963 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю, у 1970-м – доктарскую, у 1972-м атрымаў званне прафесара, у 1982-м – званне Заслужанага дзеяча навукі і тэхнікі БССР, у 1986-м атрымаў Дзяржаўную прэмію, у 1988-м – Прэмію Савета міністраў СССР, у 1991-м абраны членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук.

Пад маім навуковым кіраўніцтвам паспяхова абараніліся 33 кандыдацкія дысертацыі па фізіка-матэматычных і тэхнічных навуках. З'яўляюся аўтарам звыш 150 навуковых прац, двух падручнікаў і некалькіх акадэмічных дапаможнікаў для студэнтаў універсітэтаў, 7 манаграфій, аўтарам 73 вынаходніцтваў (разам з суаўтарамі). У савецкі час быў візіт-прафесарам у замежных універсітэтах – Люблянскім (Югаславія), Ягелонскім (Польшча), Енскім (ГДР), дзе чытаў лекцыі па ядзернай электроніцы і радыёспектраскапіі. Удзельнічаў у многіх міжнародных навуковых канферэнцыях і сімпозіумах як у СССР, так і ў Югаславіі, ГДР і Польшчы.

У 1966 годзе быў прызначаны прарэктарам па навуковай працы Мінскага радыётэхнічнага інстытута, у 1970-м вярнуўся ва ўніверсітэт, дзе ў 1972 годзе стаў загадчыкам кафедры ядзернай фізікі і мірнага выкарыстання атамнай энергіі. Назва кафедры падкрэслівала, што студэнты вывучаюць тут ядзерную фізіку ў мірных мэтах, што было вельмі важным для навучання на ёй студэнтаў з замежжа, а іх прайшло праз кафедру вельмі многа.

У 1985 годзе, застаючыся загадчыкам кафедры, быў прызначаны прарэктарам па навуцы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (тады – імя У.І.Леніна).

Адразу пасля катастрофы ў Чарнобылі, калі сутнасць таго, што там адбылося, старанна ўтойвалася, мы зарэгістравалі высокі ўзровень радыеактыўнасці паветра ў Мінску і зрабілі аналіз спектра радыеактыўнага выпраменьвання, што дазволіла адназначна сцвярджаць – недзе на ядзерным рэактары адбылася буйная аварыя.

Рэакцыя на мае звароты кіраўніцтва Акадэміі навук і Савета міністраў БССР была тыпова савецкай: «Не сейце паніку, нічога сур'ёзнага не здарылася!" Відавочна, і гэта праз пэўны час падштурхнула мяне перайсці ад фармальнай грамадскай працы да сур'ёзнай, а пасля і да грамадска-палітычнай і палітычнай дзейнасці. Недарэчныя паводзіны савецкага чынавенства, якое выконвала ўказанні партыйнага кіраўніцтва, вялі да непапраўных памылак у ахове здароўя людзей. Гэта не маглі не выклікаць справядлівага абурэння. Супрацоўнікі кафедры і я палічылі сваім грамадзянскім абавязкам тлумачыць усюды і ўсім сутнасць таго, што здарылася, і прапагандаваць метады і спосабы найбольш бяспечнага пераадолення наступстваў ядзернай катастрофы.

Праз тры дні пасля чарнобыльскага выбуху – 29–30 красавіка 1986 года – я адчыніў для свабоднага наведвання дзверы адной з лабараторый сваёй кафедры, дзе спачатку супрацоўнікі ўніверсітэта, а пасля і ўсе, хто жадае, маглі праверыць узровень радыеактыўнасці рэчаў, а яшчэ праз дзень-два – і радыеактыўнасць харчовых прадуктаў. Магчымасць падобных замераў была ў той час у Беларусі вялікай рэдкасцю, але абсталяванне кафедры і высокая кваліфікацыя яе супрацоўнікаў дазволілі наладзіць такія замеры імгненна.

У 1989 годзе мяне абралі народным дэпутатам СССР. На з'ездах у Крамлі я ўвайшоў у міжрэгіянальную дэпутацкую групу (МДГ), у ліку сустаршынь якой былі Б.М.Ельцын і акадэмік А.Дз. Сахараў. Галоўнай мэтай МДГ было прагрэсіўнае мірнае рэфармаванне СССР у прававую дэмакратычную дзяржаву з рынкавай эканомікай.

У 1990 годзе я быў абраны народным дэпутатам БССР, а пасля – першым намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета БССР. Адразу ж асудзіў як спробу дзяржаўнага перавароту з мэтай камуністычнага рэваншу жнівеньскі путч 1991 года ў Маскве (ГКЧП) і выказаў падтрымку Барысу Ельцыну.

На пачатку верасня 1991 года беларускі парламент абраў мяне на вышэйшую службовую пасаду краіны – старшынёй Вярхоўнага Савета БССР.



Кітай. З 20-градуснага марозу Мінска і Пекіна – у 25-градусную спёку Сямэня.


6 чэрвеня 2010 года прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ ўручыла мне ордэн «Крыж Вітаўтаса».


2011 год, 29 верасня, Гданьск, палац Артус. З былымі прэзідэнтамі Луісам Ігнацыю Лула да Сільва (Бразілія), Андрэа Канстанцінеску (Румынія), Лехам Валенсам (Польшча).

На пачатку снежня 1991 года, усведамляючы бессэнсоўнасць адраджэння СССР з «чалавечым тварам», я стаў арганізатарам сустрэчы ў Белавежскай пушчы лідараў Расійскай Федэрацыі, УССР і БССР сумесна з кіраўнікамі і кампетэнтнымі членамі ўрадаў і экспертамі. Мэта – сумесны пошук выхаду з напружанай унутранай эканамічнай сітуацыі ў Беларусі і суседніх рэспубліках. Там, у пушчы, усім нам стала абсалютна ясна, што без праўдзівай дакументальнай канстатацыі рэальнага стану рэчаў, ніякія прагрэсіўныя пераўтварэнні немагчымы. Удзельнікі сустрэчы палічылі непрымальнымі парады кіраўнікоў і вядучых палітыкаў буйнейшых краін свету пайсці па шляху, настойліва прапанаванаму ў вядомай прамове Буша-старэйшага ў Кіеве ў тым самым 1991 годзе. У сваім выступленні, які журналісты іранічна назвалі «катлета па-кіеўску», ён настойліва заклікаў «адмовіцца ад нацыяналізму» і ўсім заставацца ў Савецкім Саюзе.

У Белавежскай пушчы мы вырашылі афіцыйна канстатаваць тое, што здарылася: прызнаць, што СССР як геапалітычная рэальнасць і суб'ект міжнароднага права не функцыянуе як нармальная дзяржава, іншымі словамі – спыняе сваё існаванне. Мы пастараліся знайсці найбольш шчыльную форму супрацоўніцтва складовых частак СССР і пераўтварыць Саюз у Садружнасць Незалежных Дзяржаў (СНД).

Пазней неаднаразова падкрэслівалася і стала агульнапрызнаным, што менавіта там, у Белавежскай пушчы, быў распрацаваны, узгоднены і падпісаны дакумент, які дазволіў прадухіліць сілавыя захады ўтрымання рэспублікі ў складзе СССР, прадухіліць крывавы варыянт непазбежнага распаду Савецкага Саюза на самастойныя дзяржавы на ўзор югаслаўскага.

Адразу пасля вяртання ў Мінск мне ўдалося пераканаць парламент ратыфікаваць Пагадненне аб утварэнні СНД.

На сустрэчы ў пушчы я заявіў аб згодзе Беларусі вывесці са сваёй тэрыторыі ўсё стратэгічнае і тактычнае ядзернае ўзбраенне без перадумоў і кампенсацыі, бо выдатна разумеў, што наяўнасць ядзернага арсенала ў Беларусі – пагроза існаванню беларусаў як нацыі. У мяне не было ніякага сумневу ў тым, што я пераканаю Вярхоўны Савет прыняць такое рашэнне. Урэшце так і сталася. Усе неабходныя міждзяржаўныя пагадненні ў справе вываду ядзернай зброі з Беларусі былі без затрымкі падпісаны беларускім бокам, і да канца 1995 года ўся ядзерная зброя пакінула Беларусь.

Улетку 1993 года старая партыйная наменклатура ачуняла ад страху, народжанага жнівеньскім 1991 года путчам, і паспрабавала зняць мяне з пасады вышэйшай службовай асобы ў краіне. Пры галасаванні ў парламенце ёй не хапіла шасці галасоў. У студзені 1994 года ёй гэта ўдалося.

У 1995 годзе я быў ізноў абраны ў першым туры дэпутатам Вярхоўнага Савета Беларусі. Але не прайшло і двух гадоў, як прэзідэнт Лукашэнка з дапамогай вышэйшых расійскіх кіраўнікоў, якія спецыяльна прыехалі ў Мінск «замірыць» прэзідэнта з Вярхоўным Саветам, разагнаў беларускі парламент і ўсталяваў дыктатуру. Імперцы старой камуністычнай закваскі – старшыні Расійскай Думы і Савета Федэрацыі Селязнёў і Строеў, а таксама расійскі прэм'ер Чарнамырдзін – даволі лёгка, як кажуць, абвялі вакол пальца старшыню Вярхоўнага Савета Беларусі Сямёна Шарэцкага і падпісалі дакумент, які дазволіў Лукашэнку атрымаць неабмежаваную ўладу. Пра гэта рэдка ўспамінаюць, але не грэх напомніць, што асістэнтамі Шарэцкага на перамовах Лукашэнкі з расійскімі «замірэнцамі» былі Генадзь Карпенка і Сяргей Калякін, а старшыня Канстытуцыйнага суда В.Г.Ціхіня нават паставіў на ганебным дакуменце свой подпіс.

…З 1997 года ўзначальваў партыю «Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада». Атрымаў некалькі прэстыжных міжнародных узнагарод за дзейнасць, скіраваную на дэмакратызацыю і адстойванне правоў чалавека.

У 1997 годзе мне прысуджана Міжнародная ўкраінская прэмія імя Піліпа Орліка; у 2005-м – Прэмія імя Яна Новака Ёзераньскага ў Польшчы; у чэрвені 2010-га я быў узнагароджаны вышэйшым ордэнам Літоўскай Рэспублікі за садзеянне дэмакратычным пераўтварэнням у Літве ў 1989–1994 гадах. Фонд памяці ахвяр камунізму ўзнагародзіў мяне медалём Свабоды імя Трумэна–Рэйгана. Цырымонія ўручэння адбылася 26 сакавіка 2012 года ў Вашынгтоне ў Фондзе «Спадчына».

Мяне не пакідае надзея пераўтварыць дыктатарскую Беларусь на чале з кіраўніком, які прыслухоўваецца пераважна да ўласных інстынктаў, у дзяржаву, годную яе народа. Пераўтварыць эвалюцыйным шляхам, як гэта адбылося з СССР.

## Пра сябе: споведзь саўка

Савецкага Саюза няма, а савецкі чалавек застаўся. Гэта факт. Жартаўнікам, якія не заглыбляюцца ў сутнасць рэчаў, ёсць дзе папрактыкавацца. Чалавек разумны, сцвярджаюць яны, з'явіўся на Зямлі тысяч семдзесят гадоў таму, чалавек савецкі – гадоў семдзесят. Суіснуюць сёння на планеце чалавек разумны і чалавек савецкі, скарочана – савок. Ён навучаны ненавідзець іншых за тое, што яны лепшыя за яго. Усе багацці ён лічыць набытымі несумленным шляхам, атачэнне – варожым, перакананы, што светлую будучыню яму перашкодзілі пабудаваць дэмакраты.

Тэрмін «савок» прыдумалі савецкія дысідэнты. Як быццам не крыўдны і не лаянка, а характарызуе чалавека і стыль яго жыцця. У ім усё: і непрыманне, і ганьбаванне, і дакор, і сарказм, і пахвальба за цярпенне. Мовазнаўцы адносяць такія тэрміны да *пеёратыўных*, якія выяўляюць адмоўную ацэнку, неўхваленне, ганьбаванне, іронію і нават пагарду. У "саўка" – нічога агульнага з традыцыйнай грознай зброяй бальшавікоў – ненарматыўнай лексікай, а ён яе перамагае!

Саўкамі я лічыў многіх, але не сябе, аднак з часам зразумеў, што, як і большасць грамадзян СССР, мала чым ад сярэднестатыстычнага саўка адрозніваюся. Не хапіла ў мяне смеласці адкінуць уласную саўковасць, як рабілі гэта мужныя сумленныя людзі. Захапляўся падобнымі людзьмі, але сам не быў здольны на такі ўчынак. Усяму савецкаму ў сабе знаходзіў апраўданне. Стаў членам КПСС? Дык на такой, прабачце, пасадзе апынуўся, беспартыйнаму на ёй працаваць немагчыма.

Надарыўся выпадак – пайшоў ва ўладу. Стаў першым без інтрыг і хлусні. Мог, як савок, падмяць іншадумцаў, але не падмяў. Зразумеў: апраўдваць саўковасць далей – злачынства. Ачуняўшы ад страху пасля разгрому камуністычнага путчу, саўкі толькі аб гэтым і марылі…

Першы кіраўнік незалежнай Беларусі. Першым падпісаў Пагадненне аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Першым прапанаваў зрабіць Беларусь бяз'ядзернай. І зрабіў! А да 54 гадоў нават не падумваў мецць дачыненне да палітыкі. Партыйных функцыянераў лічыў абсалютна няздольнымі займацца карыснай працай – фізікай, тэхнікай, гісторыяй, філалогіяй, будаўніцтвам, сельскай гаспадаркай. Саспеў, здавалася б, для канчатковага развітання з уласнай саўковасцю, але яна жывучая і час ад часу дае аб сабе знаць.

Меў зносіны з моцнымі гэтага свету. Што да асобных з іх, зразумеў, хто яны такія. Яны розныя. Хачу сёе-тое нагадаць аб іх людзям, каб менш памыляліся. Перакананы: нам не прыйсці да еўрапейскай беларускай Беларусі без адраджэння нацыянальнай інтэлігенцыі – людзей любой нацыянальнасці, але высокай унутранай культуры, якіх так люта знішчалі бальшавікі, якіх сёння ліквідуюць іх нашчадкі, па-ранейшаму падмяняючы інтэлігентаў *людзьмі разумовай працы*…

Але аб гэтым – пазней.

## Беларусь, беларусы, эліта

Гісторыя Беларусі, якую даводзілі ў школах і ВНУ да людзей ад пакалення маіх бацькоў да пакалення маіх дзяцей, мае мала агульнага з сапраўднай гісторыяй маёй краіны. Аднак, засеўшы ў галовах трох-чатырох пакаленняў, яна і сёння вызначае светапогляд большасці беларускіх грамадзян. Расскажу коратка аб тым, як я разумею вехі гісторыі Беларусі.

Станаўленне беларускай дзяржаўнасці пачалося ў канцы першага тысячагоддзя. Горад Полацк як цэнтр княства згадваецца ў летапісах з 862 года. Цікавая дата! За год да гэтага – у 861-м – наўгародцы прадэманстравалі ўласную няздольнасць кіраваць сваім княствам і запрасілі княжыць варагаў. З тае пары Расія адчувае комплекс непаўнацэннасці ў справе дзяржаўнага будаўніцтва. Толькі аднойчы, а менавіта 12 чэрвеня 1991 года, расійскі народ абраў кіраўніка расійскай дзяржавы – прэзідэнта Барыса Мікалаевіча Ельцына. Але нават яго тытанічнага здароўя і вынослівасці не хапіла, каб зацвердзіць такі парадак рэчаў на наступны час. Адчуваючы комплекс непаўнацэннасці, прэзідэнцкае атачэнне згуртавалася і прымусіла Ельцына прызначыць пераемніка, а той, выхаваны ў старых імперскіх традыцыях, вярнуў усё ў старое рэчышча. Сёння не народ, а адміністрацыйны рэсурс вызначае, каму кіраваць Расіяй.

І Беларусь, на жаль, не служыць сёння прыкладам годнай дзяржаўнасці. Прычынай таму перш за ўсё стала тое, што ў 1996 годзе ў Мінск з мэтай зруйнаваць беларускі парламентарызм і надзяліць Лукашэнку дыктатарскімі паўнамоцтвамі прыехалі расійскія кіраўнікі Селязнёў, Строеў і Чарнамырдзін. Яны добра разумелі, што для расійскай улады значна лягчэй вырашаць пытанні з самазахопленым дыктатарам, чым з абраным народам парламентам.

Беларусы – нашчадкі палітычных традыцый адной з найбуйнейшых сярэднявечных еўрапейскіх дзяржаў – Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). Але сёння як у Еўропе, так і на іншых кантынентах многія памылкова атаясамліваюць ВКЛ з сучаснымі літоўцамі, хоць, напрыклад, беларуская мова доўгі час была ў ВКЛ дзяржаўнай, а літоўская – ніколі. На беларускай мове напісаны і Статут Вялікага Княства Літоўскага – свайго роду Канстытуцыя ВКЛ. Беларускаму хрысціянству крыху больш за 1000 гадоў, літоўскаму – за 500.

Маскоўскія цары, блаславёныя праваслаўнымі патрыярхамі, шмат разоў хадзілі на Беларусь вайной, рабавалі, знішчалі, палілі, пакідаючы пасля сябе руіны і пажарышчы. Расійскія памешчыкі папаўнялі шэрагі сваіх прыгонных сотнямі тысяч працавітых беларускіх сялян. Нават «тишайший» (паводле гісторыка В.Ключэўскага) і «дабрэйшы чалавек слаўнай душы рускай» цар Аляксей Міхайлавіч падчас 13-гадовай вайны з Рэччу Паспалітай (1654–1667) забіў або пагнаў у незваротны палон больш за 50% трохмільённага тады Краю – 1.550.000 чалавек. Паводле іншых ацэнак, страты дасягнулі 1.800.000 чалавек. Больш за чвэрць свайго насельніцтва страціла Беларусь у вайне Пятра I са шведамі, падчас напалеонаўскай вайны, падчас Першай і Другой сусветных войнаў.

Крыху больш за 200 гадоў таму пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай Беларусь трапіла ў склад Расійскай імперыі. Беларуская мова была забаронена, паўстанні беларусаў супраць расійскіх прыгнятальнікаў тапіліся ў крыві.

Аслабленне антыбеларускага прэсінгу адбылося на пачатку 1900-х гадоў, калі рэвалюцыйны рух Расіі стаў пагражаць манархіі. Тады ў горадзе Вільні, сталіцы беларускай культуры (куды пазней, у 1939 годзе, пасля сталінскага пераносу межаў была перанесена з Каўнаса сталіца Літоўскай ССР), пачала выдавацца беларуская газета «Наша Ніва», друкаваліся беларускія кнігі, падручнікі, календары.

25 сакавіка 1918 года была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка (БНР). Яе прызналі Арменія, Аўстрыя, Грузія, Латвія, Літва, Польшча, Украіна, Фінляндыя, Чэхаславакія, Эстонія. Адбыўся абмен консульствамі паміж БНР і Украінскай Народнай Рэспублікай (УНР). Дзень абвяшчэння БНР стаў днём адраджэння сучаснай беларускай дзяржаўнасці.

БНР неадкладна зруйнавалі бальшавікі, але менавіта яна адыграла паважную ролю ў справе стварэння незалежнай беларускай дзяржавы. БНР перашкодзіла бальшавікам ажыццявіць іх планы – стварыць на землях, заселенных беларусамі, 5–7 заходніх абласцей (губерняў) у складзе Расійскай Федэрацыі. Пасля хай сабе і караткачасовага існавання Беларускай Народнай Рэспублікі яе ліквідацыя была б занадта яскравым пацвярджэннем фальшывасці ленінскага «права нацый на самавызначэнне».

Рада БНР у выгнанні як спадкаемца стваральнікаў БНР існуе і сёння. У адпаведнасці са сваім статутам яна перадасць свае паўнамоцтвы ўраду Беларусі, сфарміраванаму на падставе свабодных і сапраўды дэмакратычных выбараў. Падобнага кшталту ўкраінская Рада перадала свае паўнамоцтвы ўраду Украіны падчас прэзідэнцтва Леаніда Краўчука. У 1992–1994 гадах вяліся перамовы паміж прадстаўнікамі Рады БНР і ўрада Рэспублікі Беларусь і рыхтавалася аналагічная перадача паўнамоцтваў. Працэс быў спынены пасля разгону Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

1 студзеня 1919 года бальшавікі стварылі Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку (БССР), якая ў 1922 годзе стала адной з заснавальніц СССР. У склад БССР увайшла тэрыторыя, значна меншая за тую, якая была заселена беларускамоўным насельніцтвам. Беларускія землі без згоды Беларусі і надалей служылі «разменнай манетай» суседніх краін пры ўладкаванні тэрытарыяльных спрэчак. Той самы пакт Рыбентропа–Молатава, згодна з якім незалежная Літва стала рэспублікай у складзе СССР і якім справядліва абураліся літоўскія палітыкі, не выклікаў у тых жа палітыкаў ніякіх пярэчанняў па далучэнні да Літвы беларускіх зямель.

Пасля кароткачасовага, у 1920-я гады, аслаблення ганенняў на ўсё беларускае бальшавікі пад сцягам барацьбы з нацыяналізмам і контррэвалюцыяй прыступілі на пачатку 1930-х гадоў да знішчэння *беларускай інтэлігенцыі*. У 1937–1939 гадах былі расстраляны і сасланы ўглыб Расіі дзясяткі тысяч найбольш дасведчаных і адукаваных беларусаў. Дакументальна пацверджана, што толькі пісьменнікаў, публіцыстаў, гісторыкаў, філолагаў, якія пісалі на беларускай мове, было расстраляна больш за 370. Прыкладна столькі ж «пішучых інтэлігентаў» было расстраляна ва Украіне і ў Расіі, у якіх насельніцтва было адпаведна ў 5 і 15 разоў больш, чым у Беларусі. А калі да названай вышэй лічбы дадаць страту кожнага чацвёртага беларуса ў вайне з фашыстамі, то цяжка не пагадзіцца з думкай асобных навукоўцаў, што беларуская нацыя была за апошнія стагоддзі генетычна знявечана.

## Маскоўскія стаўленікі

Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі ў першыя гады савецкай улады вызначаліся выключнай дбайнасцю і мэтанакіраванасцю. Маскоўскія эмісары знішчылі большую частку беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі – больш за 90 працэнтаў яе эліты, а таксама найбольш дасведчаных і таленавітых прадстаўнікоў беларускай партыйна-савецкай наменклатуры. Чысткі ішлі адна за адной. На месца Чарвякова, Ігнатоўскага, Крыніцкага прыходзілі Мяснікян, Берман, Цанава, Гамарнік, Гей… Калі называць рэчы сваімі імёнамі, то найбольш адданыя Маскве кіраўнікі Беларусі, такія як П.К.Панамарэнка – першы сакратар ЦК КП(б)Б у 1938–1947 гады, фактычна прасілі Сталіна дазволіць ажыццявіць генацыд беларусаў. Народны паэт Беларусі Якуб Колас пазней успамінаў, як у Мінску, а пасля і ва ўсіх гарадах Беларусі людзей арыштоўвалі толькі за тое, што яны гаварылі на сваёй роднай мове.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

ЗАПРАШЭННЕ

# Як паехаць вучыцца ў Францыю?

*Даведацца пра гэта можна будзе на выставе «Кар'ера і адукацыя», якая пройдзе ў Мінску з 13 па 15 лютага.*

«На стэндзе пасольства Францыі будуць працаваць аташэ па супрацоўніцтве ў галіне сярэдняй і вышэйшай адукацыі Ксаўе Ле Тарывелек і Марына Завадская, кіраўнік прасторы "Кампюс Франц" у Мінску, – *распавяла "Народнай Волі" прэс-аташэ амбасады Наталля Зайцава.* – Мы будзем рады адказаць на любыя пытанні, якія прыходзяць ад вучняў і бацькоў. Дырэктар Нацыянальнай вышэйшай школы хіміі ў Рэне Рэджыс Гацье і супрацоўнік па міжнародных адносінах П'ер Браен адкажуць на любое пытанне».

ЦІ ВЕДАЕЦЕ ВЫ, ШТО...

## Францыя займае 4-е месца ў свеце па прыёме замежных студэнтаў

Больш за 310.000 замежных студэнтаў (прыкладна 12% ад агульнай колькасці студэнтаў) атрымліваюць адукацыю ў Францыі – чацвёртай краіне свету пасля ЗША, Вялікабрытаніі і Аўстраліі па колькасці замежных студэнтаў.

***

Французамі з'яўляюцца 13 лаўрэатаў Прэміі Філдса ў галіне матэматыкі (Францыя трымае 2-е месца ў свеце па дасягненнях у галіне матэматыкі, 4-е месца ў свеце па колькасці лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі і 6-е месца па колькасці выдадзеных патэнтаў на вынаходства).

***

Францыя прапануе больш за 1000 навучальных праграм з выкладаннем на англійскай мове па самых розных спецыяльнасцях. Адукацыю на англійскай мове можна атрымаць у ВНУ па ўсёй тэрыторыі краіны, і гэта з'яўляецца адной з пераваг французскай вышэйшай адукацыі.

***

У Францыі на вышэйшую адукацыю выдзяляецца каля 5,6% ВУП. У дзяржаўных навучальных установах дзяржава наўпрост аплачвае значную частку рэальнага кошту навучання кожнага студэнта (ад 8 да 14 тысяч еўра ў год). Такая дзяржаўная сістэма дазваляе ўтрымліваць памер уступнага ўзносу, які аплачваецца пры залічэнні ў ВНУ, на адным з самых нізкіх у свеце ўзроўняў, захоўваючы пры гэтым гарантыі якасці дыпломаў. Не існуе ніякага адрознення паміж замежнымі і французскімі студэнтамі: патрабаванні пры паступленні, дыпломы, памер кошту навучання або рэгістрацыйнага ўзносу пры залічэнні ў ВНУ аднолькавыя незалежна ад грамадзянства студэнтаў.

**Даша ПАЎЛОЎСКАЯ.**

ПРИНЦИПИАЛЬНО!

## Люксембург без глифосата

Люксембург со следующего года может стать первой страной Евросоюза, полностью запретившей продукцию на основе глифосата. Эти гербициды уже нельзя ввозить на территорию герцогства, а в июле вступит в силу запрет на их продажу. Такой закон был принят после серии судебных процессов в США о связи использования глифосата с онкологическими заболеваниями.

*«У нас достаточно альтернатив для замены пестицидов. У стран-членов ЕС есть возможность запретить использование определенных пестицидов для защиты здоровья людей и окружающей среды. Пока что это происходит очень редко. Люксембург становится пионером и показывает, что можно направлять бюджетные средства на поддержку фермеров при переходе к сельскому хозяйству без использования пестицидов. Это очень хороший сигнал, который должны услышать другие страны-члены ЕС»,* – цитирует «Евроньюс» **Мартина Дермина**, представителя Европейской сети действий в отношении пестицидов (Pesticide Action Network Europe)

После запрета глифосата власти Люксембурга обещают фермерам субсидии. Профсоюзы считают эту поддержку недостаточной, а противники органичений отмечают, что нельзя найти достойную альтернативу популярным гербицидам непросто.

В компании «Монсанто», которая разработала глифосат, настаивают на том, что при соблюдении инструкций это средство безопасно для людей.

ВОТ ЭТО ДА!

## В Латвии пациентке удалили опухоль в 15 килограммов

*В Латвийском онкологическом центре проведена уникальная операция. Врачи удалили пациентке липосаркому размером 60 на 40 сантиметров и весом 15 килограммов, при том что женщина при поступлении в больницу весила 60 килограммов.*

Пациентку, диагноз которой был поставлен еще два года назад, доставили в онкоцентр в критическом состоянии.

По словам врачей, она из-за тяжелого эмоционального потрясения длительное время не обращалась за медицинской помощью и лечилась самостоятельно травяными чаями. Операция длилась 6 часов.

*«Это была очень опасная операция, потому что можно было легко повредить несколько других жизненно важных органов»,* – говорит хирург Армандс Сивиньш, руководитель Латвийского онкологического центра: *– Нам пришлось пройти миллиметр за миллиметром. Опухоль была очень тяжелой, и мы должны были держать ее в руках во время операции. Физически это было довольно тяжело. Мы впервые столкнулись с такой большой опухолью».*

Операция прошла успешно. Ее удалось осуществить только потому, что опухоль не метастазировала. Врачи полагают, что женщина, которая внутренне успела смириться с тем, что умрет, сможет вернуться к полноценной жизни. Медики призывают пациентов с онкологическим диагнозом не падать духом, не опускать руки, а своевременно обращаться за помощью.

ДИПКУРЬЕР

Жаклин ПЕРКИНС,
Чрезвычайный и Полномочный Посол Великобритании в Беларуси:

# «Мы амбициозная нация с масштабными идеями...»

*Английский дипломат рассказала, что изменится после того, как Великобритания покинула Европейский Союз после 47-летнего членства.*



– После референдума, который состоялся в 2016 году, правительство Великобритании выступило с концепцией «Глобальная Британия», – *рассказала посол Великобритании в Беларуси Жаклин Перкинс.* – Это видение будущего страны после выхода из ЕС. Выход из ЕС – это наша возможность показать, что такое глобальная Британия: это новые отношения с нашими партнерами в ЕС и во всем мире; это заключение торговых сделок на новых рынках, что подтвердит позицию Великобритании как либеральной и свободной торговой нации; это отстаивание своих сильных моральных принципов, выступая силой добра в мире.

В то же время как истинно глобальная Британия мы сохраним приверженность жизненно важным вопросам сегодняшнего дня и будем играть свою роль в обеспечении лучшего, более справедливого и безопасного мира завтрашнего дня.

Мы формируем новое партнерство в Европе, которое опирается на наши общие узы дружбы и сотрудничества, но выступаем как суверенные равноправные партнеры с большей демократической автономией и четким, независимым голосом, чтобы говорить и действовать в отношении того, что имеет значение для нас.

В то же время мы четко знаем: безопасность Европы – это безопасность Великобритании, о чем свидетельствует и наша руководящая роль в НАТО, и интенсивное сотрудничество с нашими европейскими коллегами по иранскому кризису и ливийскому мирному процессу.

С уверенностью Великобритания протягивает руку помощи миру. Мы амбициозная нация с масштабными идеями, движимая новыми стремлениями и нацеленная не упустить новые возможности.

Великобритания будет мировым лидером в области свободной торговли, принося пользу бизнесу, снижая издержки для потребителей и помогая беднейшим странам мира достичь подлинной экономической независимости.

Вне ЕС мы будем заключать прогрессивные и крупномасштабные торговые сделки по всему миру, начиная от соглашения о свободной торговле с ЕС по примеру Канады и заканчивая другими торговыми сделками с Австралией, Японией, Новой Зеландией, США и другими странами.

Мы привержены всеобщим правам человека и основным свободам. Покидая ЕС, мы и дальше будем привлекать к ответственности лиц, нарушающих права человека.

Мы являемся мировыми лидерами в принятии мер по борьбе с изменением климата и стали первой крупной экономикой, законодательно закрепившей обязательство по достижению к 2050 году углеродной нейтральности. И вместе с Италией мы принимаем у себя в этом году 26-ю сессию Конференции Сторон Рамочной конвенции ООН об изменении климата (COP26), которая призвана активизировать международные усилия по борьбе с этим явлением.

АКЦЕНТЫ

### Что изменится в отношениях Беларуси и Великобритании?

– За последние три года наши отношения значительно развились, и я надеюсь, что и дальше мы будем тесно сотрудничать, – *говорит Жаклин Перкинс.* – Мы продолжим диалог с правительством Беларуси по вопросам прав человека. Очень важно иметь возможность обсуждать такие темы. Думаю, наши отношения с Беларусью достаточно крепки для этого.

Что изменится лично в моей работе? Не думаю, что слишком многое. Я сама, как и моя предшественница, очень усердно работали над тем, чтобы улучшить отношения между странами. И я буду продолжать это. За то время, что здесь нахожусь, я была удивлена количеством форм сотрудничества и связей между нашими странами. Это не только экономика и торговля, но и культура, безопасность, гуманитарная сфера и многие другие направления...

### О смертной казни

– Тема смертной казни очень важна для Великобритании. У нас были хорошие отношения с рабочей группой, которая в Палате представителей занималась изучением вопроса отмены смертной казни. И сейчас, когда в новом парламенте также сформирована такая группа, мы планируем с ними продолжить этот диалог. Великобритания считает, что смертная казнь – это несправедливое наказание при любых обстоятельствах. Надеюсь, что когда-нибудь Беларусь введет мораторий на смертную казнь или полностью ее отменит.

### О санкциях

– Британия решила сохранить режим санкций в отношении четырех белорусских персон *(речь идет о Викторе Шеймане, Дмитрии Павличенко, Юрии Сивакове и Владимире Наумове, которых подозревают в причастности к громким исчезновениям. – **М.К.**).* Информация о том, что санкции, которые введены, сняты, не соответствует действительности. Как и в случае с Евросоюзом, режим санкций будет подвергаться пересмотру каждый год. Что может стать условиями для их отмены? Мне кажется, нам нужно будет для этого увидеть определенный скачок в сфере прав человека. И мы уже видим, что в Беларуси уже есть определенный прогресс в этой сфере.

Что имеется в виду под прогрессом? Из того, что я сама наблюдала, и из моих бесед с представителями гражданского общества я поняла, что они видят сейчас больше возможностей для обсуждения тех вопросов, которыми занимаются, с правительством. Я считаю, что гражданское общество — очень важный элемент в любой стране, и мне приятно, что сейчас в Беларуси появилось больше возможностей для диалога с властями.

### О бизнесе

– 4–5 марта в сотрудничестве с торгово-промышленной палатой мы организовываем белорусско-британский сезон, во время которого будут изучаться возможности сотрудничества в сфере торговли.

### О визах

– В ближайшее время наша визовая политика не изменится. За первые 9 месяцев 2019 года около 13,5 тысячи белорусов подали заявки на получение визы. За год в целом – около 17 тысяч. Мы наблюдаем постоянное увеличение количества заявок.

У белорусов очень высокий процент успешных заявок – всего лишь два процента отказов от общего количества.

Станет ли сейчас проще белорусам получить рабочую визу в Британию? И как много белорусов обращается именно за рабочими визами? К сожалению, конкретных цифр у меня сейчас нет. А что касается новой балльной системы получения рабочих виз, то британское правительство все еще находится в процессе обсуждения этого вопроса, поэтому на данный момент у меня нет на него ответа.

Если говорить о движении в обратном направлении, то цифры мы получаем от консульского отдела МИД, в 2018 году 12,5 тысячи британцев посетили Беларусь. Примерно 2/3 из этих британцев приехали по безвизовому режиму, остальные подавали заявки на визу. Ежегодно мы наблюдаем примерно 30-процентный рост количества британцев, приезжающих в Беларусь, что, конечно, очень позитивно. Я лично считаю, что еще больше британцев должно приезжать в Беларусь и видеть, какая это прекрасная страна.

**Марина КОКТЫШ.**

РАКУРС

# Оптимистов в Украине стало больше

Общемировые тенденции таковы, что люди постепенно утрачивают оптимизм. Только 37% жителей планеты надеются на лучшее в наступившем году, 25% настроены пессимистично. Парадоксально, но в Украине на фоне остальных стран, несмотря на продолжающуюся шесть лет войну, снижение производства и увеличение эмиграции, произошел резкий скачок оптимистических настроений.

Международная ассоциация независимых исследовательских агентств **Gallup International** ежегодно проводит международный социологический опрос под названием «**Конец года**». В 2019 году в нем участвовало 45 тыс. человек, проживающих в 46 странах. Украину в опросе вот уже пятый год представляет **Киевский международный институт социологии** (КМИС).

Социологи исследовали ожидания граждан от наступающего года по сравнению с уходящим. Вопрос к респондентам звучал следующим образом: *«Как вы считаете, 2020 год будет лучше, хуже или таким же, как 2019-й?».* Предлагались следующие варианты ответов: *«лучше», «хуже», «так же», «затрудняюсь ответить».* Подсчитав разницу между вариантами ответа «лучше» и «хуже», социологи вывели так называемый «индекс оптимизма».




В 2019 году «индекс оптимизма» в Украине составил 25 пунктов. 42% опрошенных считают, что в следующем году станет лучше, 17% – хуже, 26% – предполагают, что все останется, как было, а 15% затруднились ответить. В целом Украина оказалась на 15-м месте среди жителей 46 стран.

Министр Кабинета министров Украины Дмитрий Дубилет выказал обеспокоенность правительства существованием в стране негативного тренда: *«Сейчас из Украины уезжает больше, чем приезжает, а умирает больше, чем рождается».*

Однако, несмотря на пессимистические факторы, уровень оптимизма в Украине за последний год резко вырос с 4 до 25 пунктов.

«Индекс оптимизма» в Украине ниже, чем в ряде постсоветских стран: Казахстан (60 пунктов), Армения (55 пунктов), Азербайджан (36 пунктов), Грузия (33 пункта), но существенно выше, чем в Российской Федерации. В России после обвала, произошедшего в 2016 году, этот показатель близок к нулю – всего 2 пункта. Вероятно, эйфория после «вставания с колен» и аннексии Крыма быстро улетучилась.

Что же привело к повышению оптимистических настроений в Украине в 2019 году? Украинские социологи высказали предположение, что на скачок оптимизма повлияли выборы.

В минувшем году в Украине произошла кардинальная смена власти.

В апреле избран новый президент. Потерпевший сокрушительное поражение Петр Порошенко накануне второго тура имел самый высокий отрицательный рейтинг – 58%. Кстати, со временем негативное отношение к экс-президенту только выросло. На сегодняшний день 78% опрошенных относятся к нему отрицательно.

Ратовали за радикальные изменения 83% украинцев. Благодаря такому настроению граждан Украины в июле прошлого года кардинально обновился состав Верховной Рады. Впервые одна политическая сила получила простое большинство в украинском парламенте, что позволило ей формировать правительство без привлечения других партий.

Может, это случайность, но на парламентских выборах за партию нового президента Владимира Зеленского проголосовали 43,16%, что близко к показателю тех, кто ожидает улучшений в 2020 году, – 42%.

Самое интересное, что в 2014–2015 годах в разгар боевых действий на Донбассе украинцы были более оптимистично настроены, чем в период относительного затишья 2016–2018 годов. В то время также произошла смена власти – «Революция Достоинства», новый президент Петр Порошенко, новая Верховная Рада. Надежды общества на позитивные изменения в Украине были очевидны, но, к сожалению, они не оправдались. Перемены, на которые рассчитывал народ, так и не произошли, а оптимистов заметно поубавилось.

В 2019 году в Украине произошла электоральная революция, граждане выбрали не системного политика, а просто популярную личность. Украинцы снова обрели надежду, оптимистические настроения возросли. Надолго ли? Сможет ли украинская власть в очередной раз не ввергнуть своих граждан в состояние пессимизма?

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,
собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

У СОСЕДЕЙ

## Польша: президент подписал закон о судебной реформе

Президент Польши **Анджей Дуда** подписал предложенный правящей партией закон о реформе судебной системы. Работа над ним велась в условиях спора между авторами документа, оппозицией и судьями. После утверждения в Сейме закон отклонил Сенат. Но позднее его приняли парламентарии. Депутатов не остановило и обращение Еврокомиссии, которая просила заморозить работу над законопроектом для проведения консультаций.

В новом законе речь идет о введении дисциплинарной ответственности судей за действия или бездействие, которые могут помешать или затруднить функционирование судебной системы, а также за действия политического характера. Ранее в Верховном суде заявили, что положения реформы противоречат как праву ЕС, так и Конституции страны.

В партии власти считают, что реформа необходима и поддерживается обществом, которое ждет прекращения хаоса и беспорядка в судах. Европейские правовые эксперты считают, что закон подрывает независимость судебной власти.

По мнению участников многочисленных протестов, под угрозой оказалась не только система судопроизводства Польши, но и принадлежность страны к европейской системе ценностей.

